Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

14—20 лістапада 1998 года
№ 72 (152)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 2000 руб.
Цана ў розніцу — 3000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ -БАРАНАВІЧЫ -БЯРОЗА

ІВАЦЭВІЧЫ

## А БУЛЬБА ЗМЕРЗЛА



6 лістапада да нас, у рэдакцыю, патэлефанавалі з Дабромысля. "Перадаюць пахаладанне, а наш калгас яшчэ бульбу не выкапаў. Прыязджайце і паглядзіце на поле ля вёскі Селец. Самі не ўбралі і людзям не даюць".

Пасля абеду таго ж дня рэйдавая брыгада нашай газеты была ўжо на полі калгаса "40 год Кастрычніка". Сапраўды, бульбяное поле, якое ў вёсцы называюць "Казачыха" ў такім стане, што незразумела — якія работы, якімі агрэгатамі тут выконваліся. Першыя тры рады ад пашы ўвогуле не копаныя (аўтары гэтага матэрыялу, разгарнулі адзін з радоў і зрабілі здымак, які вы бачыце), далей бульба як быццам вытрасеная і сабраная, але добры дождж вымыў шмат бульбін, вялікіх і малых, якія, зразумела, трэба было б неадкладна сабраць, улічваючы, што на вуліцы лістапад, а не верасень. Далей зноў някопаныя рады, па якіх проста прайшлі ,ыскамі і пасля якіх наверсе аказалася шмат бульбы.

Праз дзень сапраўды моцна пахаладала (маразы ўначы даходзілі да -8°С). Мы рашылі зноў такі наведаць гэтае поле. Дзесьці ўсё ж такі цеплілася надзея — не можа так ляжаць пад небам бульба, на якую калгас, дзяржава, падаткаплацельшчыкі "ўбухалі" столькі сродкаў. Вось 10 лістапада, калі раніцою стаяў добры мароз, калі жыхары райцэнтра перайшлі на зімовае адзенне, мы зноў-такі накіраваліся ў "40 год Кастрычніка".

Уся бульба змерзла. Мы нават знайшлі той сфатаграфаваны радок — бульбіны гэтак жа ляжалі пад небам, толькі ўжо мёрзлыя. Нават калі не перакопваць, а проста пазбіраць той ураджай, што ляжаў на полі, дык і то можна было б назбіраць, напэўна, не адну тону. Але ж бульба засталася ў зямлі. Хто яе падбярэ? Пытанне рытарычнае. Акрамя лістападаўскіх маразоў, на гэтым полі ніхто працаваць не жадае. Эх, завезлі бы сюды каманду вертыкальшчыкаў з бярозаўскіх дажынак! Няхай бы на пакінутым бульбяным полі ўслаўлялі яны калгасы і калгасныя адносіны да працы і беларускага другога хлеба — бульбы!

ХХХ

На жаль, факты абуральнай калгаснай безгаспадарчасці характэрны не толькі Івацэвіцкаму раёну. У калгасе "Белаазёрскі" Бярозаўскага раёна да свята работнікаў сельскай гаспадаркі на полі пакінулі не ўбранымі 4 га бульбы. Заўважым: гэта — на фоне пераможных воклічаў аб паспяховым завяршэнні ўборкі. Людзям пакінутую бульбу капаць не даюць. Што не змерзла — тое згніе...

## Запісацца ў БПСМ

запрашаюць старшакласнікаў сярэдніх школаў. Цікава тое, што пры гэтым амаль не вядзецца размова пра мэты патрыятычнага саюза і яго дзейнасць. Настаўнікі (у большасці класныя кіраўнікі) раяць сваім выхаванцам стаць членамі БПСМ, бо ў гэтым выпадку, гавораць яны, хлопцам і дзяўчатам лягчэй будзе паступаць ву-чыцца далей, наогул жыць. Довады дакладныя і пераканаўчыя, але пры чым тут патрыятычнасць? Патрыёт жа — гэта той, хто не шукае нейкіх празлазаў у жыцці, а ідзе па ім сумленна і адкрыта...

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

**ЗАЎТРА — ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І ПЕРАПРАЦОЎЧАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ АГРАПРАМЫСЛОВАГА КОМПЛЕКСУ. СА СВЯТАМ!**

На жаль, становішча сельскай гаспадаркі рэспублікі цяжкае. Пад пераможныя воклічы аб стабілізацыі ў калгасах месяцамі не плацяць зарплату, працвітае безгаспадарчасць і хаос. Па звестках незалежных экспертаў, з 2500 гаспадарак рэспублікі больш за 2000 з'яўляюцца банкротамі. І не віна гэта тых, хто сёння працуе на ферме, у полі, на трактары. Яны сталі заложнікамі калгаснага ладу...

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*МАРИНА. 16 лет, по гороскопу — Рак. Характер спокойный, уравновешенный. Считаю, что настоящая девушка должна быть воспитана в хороших классических традициях. Не приемлю в людях наглости, злости, себялюбия.*

## Цукар — па спісах. У раёне

Відаць, што сістэма дзяржаўнага размеркавання ўласціва і часу "рынкавага сацыялізму": у гандлёвых крамах раёна такі дэфіцытны ў гэтым годзе прадукт як цукар цяпер прадаецца па спісах. Ва ўсіх трох умоўных зонах нашага раёна — Быценскай, Косаўскай, Целяханскай — цукар адпускаецца па 0,5 кг на кожнага жыхара сельскага Савета (відаць, чыноўнікі падлічылі, што 500 грам салодкага прадукта якраз хопіць на 30—31 дзень). Цана 45—46 тысяч рублёў (у залежнасці ад адлегласці магазіна ад спажывецкага таварыства).

У самім жа райцэнтры, як паведамілі нам у аддзеле райвыканкама па кіраванню г. Івацэвічы, адпускацца па спісах цукар не плануецца. Калі вам пашанцуе трапіць на яго продаж — то адзін кг возьмеце. Толькі 6 сіл стаяць у чарзе хапіла!

*Інфармацыйны выпуск "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: Л. ЦАЛУЙКА, А. ГОРБАЧ, (Івацэвічы), С. РУСЕЦКІ, М. СІНКЕВІЧ (Бяроза), М. КУЛІКОВА (Баранавічы), фотакор А. ГАНЧУК.*

БЯРОЗА

## Пікет забараніць!

Падтрымліваючы агульнанацыянальную акцыю з эканамічнымі патрабаваннямі да прэзідэнта, якую 4—5 лістапада праводзіў свабодны прафсаюз беларускі (СПБ), Бярозаўская раённая рада Беларускага народнага фронту "Адраджэнне" падала ў райвыканкам заяву на правядзенне ў нядзелю, 8 лістапада, у Бярозе пікета супраць падзення ўзроўню жыцця. Аднак раённыя ўлады ў чарговы раз забаранілі пікетаванне. Пры гэтым адказ удалося атрымаць толькі 5 лістапада, хоць датаваны ён 4-м.

## Абяцалі разабрацца

Ужо даволі значны час стаянка аўтамабіляў каля малога рынку ў Бярозе з'яўляецца платнай. Грошы ідуць у гарадскі бюджэт. Але, пад'ехаўшы ў суботу 31 кастрычніка на сваёй машыне да хлебнай крамы, сп. Аліна Дзенісюк з непрыемнасцю даведалася, што платная стаянка працягнулася ўжо пад вокны гэтай крамы. На асфальце зроблена адпаведная разметка, а гарадскі кантралёр патрабавала аплаты. Аднак, як кажуць, не на тую патрапіла. Спадарыня Аліна не толькі катэгарычна адмовілася плаціць, але, вярнуўшыся дадому, яшчэ і патэлефанавала ва ўпраўленне гарадской гаспадаркі з пытаннем:

— Чаму за пакупку буханкі хлеба трэба яшчэ плаціць нейкі падатак у гарадскі бюджэт?

З другога канца тэлефоннай лініі паабяцалі разабрацца.

БАРАНОВИЧИ

## Осторожно, дезинформация

Неизвестный мужчина позвонил пенсионерке С., 1935 года рождения, 2 октября и сообщил, что их дом, расположенный на улице Царюка, заминирован. Два часа спустя испуганная бабушка сообщила об этом в милицию.

На место происшествия были направлены ближайшие наряды ППСМ 2-го взвода ОМОН, опергруппа ГОВД. О звонке сообщили мэру города Павлову, начальнику штаба ГО, опердежурному КГБ, скорой помощи и пожарной части.

Саперы слонимского батальона в/ч 33933 провели обследование и взрывоопасных предметов не обнаружили. Эвакуация жильцов не производилась.

## Процветают валютчики

Было время и не так давно — валютчиков в Барановичах как ветром сдуло. Кое-где, правда, кучковались они по темным переулкам, укромным местам в большой тайне.

Но вот подскочил в цене доллар, нет его продажи в банках при огромном спросе, ибо людям же надо ездить за границу. И вновь в открытую заработали валютчики — на рынках, около вокзала, возле универмага "Радуга". Хорошо организованные "бригады" открыто оккупировали людные места, делают свой бизнес четко. Над операторами спецмашины Стройбанка, ежедневно простаивающей возле универмага, посмеиваются. Пакупка валюты у него — два-три банкнота $ в день. Продажа — ноль. Марок, литов, гривен, российских рублей нет и в помине. Нет конкурентов у валютчиков. Процветает их бизнес. а ведь работают они подпольно. Только подпольно ли? Ведь все они — на виду. Значит, кому-то в банках, органах власти выгодна их работа?

## Будем мёрзнуть?

Зайдите в арматурный цех Барановичского комбината железобетонных конструкций и вы увидите закопченные дымом стены. Это рабочие, не выдержав ежедневных восьмичасовых холодов, пытались втихоря от начальства разжечь костры, чтобы погреться. Такая же ситуация на многих предприятиях. Чтобы сэкономить на очень-очень дорогом обогреве от ТЭЦ, руководство просто отключило сети, а для необходимейших производственных нужд задействованы арендные паровозы. Экономят копейки на здоровье рабочих. Массовые ОРЗ — явление обычное на производстве, многолетнее. Как оно ещё скажется?.. Между тем, простуда — не профессиональное заболевание.

И этой зимой, по данным санэпидстанции, обречены, с официальным уведомлением властей, на замерзание коллективы того же ЖБК, заводов опытно-механического (100 человек), ЖБИ стройтреста № 25 (100 чел.), ЖБИ Минархитектуры (75), санэлектрозаготовок (300 будущих жертв морозов). Здесь не будет включено отопление. Администрация, профкомы, санстанция и власти молчаливо согласились с этим. Главное — продукция! А на место заболевшего найдутся другие. Вот такая забота.

*КОЛА ДУМАК*

# ПРАЦАВАЦЬ СТАБІЛЬНА МОЖНА...

**Сёлета споўнілася 12 гадоў з дня ўводу ў строй Квасевіцкай пер'е-пуховай фабрыкі. У 1994 годзе з-за эканамічных цяжкасцей яна пачала працаваць з вялікімі перабоямі. Тое-сёе сталі паціху раскрадаць. Мясцовыя ўлады пачалі прадпрымаць тэрміновыя меры для таго, каб наладзіць работу гэтага прадпрыемства. На фабрыцы паявіўся новы дырэктар — Таццяна Канстанцінаўна ПАПКО. З ёй і гутарыць наш карэспандэнт.**

XXX







*НА ЗДЫМКАХ: дырэктар Квасевіцкай пер'е-пуховай фабрыкі Т. К. Папко; аператар Л. А. Падражанец (злева); швачка-матарыстка А. Э. Ланцэвіч (справа).*

**— Калі гаварыць пра новую пасаду, то, прызнайцеся, Таццяна Канстанцінаўна, ці цяжка быць дырэктарам?**

— Не тое слова цяжка. Ведаеце, па-першае, гэта вялікая адказнасць — за людзей, за вытворчасць; па-другое, у складаны і цяжкі час трэба мець уменне знайсці выхад; і, па-трэцяе, завяваць давер калектыву. Гэта ўсё разам узятае і павінна было, на маю думку, забяспечыць поспех.

**— І вашы думкі спраўдзіліся?**

— Калі б не спраўдзіліся, то я тут не працавала б. На дырэктарскай пасадзе я ўпершыню. 20 гадоў была намеснікам дырэктара Косаўскага мэблевага аб'днання. Там выпускалі мэблю, а тут зусім новы від прадукцыі, новая вытворчасць. Калі мне прапанавалі гэтую пасаду, я, паверце, проста спалохалася, папрасілася падумаць. Два месяцы думала і ўжо рашыла, што ад мяне адстануць. Але ж не. Фабрыку ўсё ж даверылі мне.

Калі ж я ўпершыню прыйшла на фабрыку, пагутарыла з рабочымі, то здзівілася таму, што людзі хочуць працаваць, што мне з першага дня даваравоць, вераць, што я змагу забяспечыць іх работай, стварыць умовы для плённай працы. Таму мае думкі ўжо былі аб тым, каб як мага хутчэй апраўдаць давер людзей.

**— Як я зразумеў, Таццяна Канстанцінаўна, давер і калектыву, і начальства Вы атрымалі. Але ж давер — гэта, па-мойму, толькі добры настрой на працу. Усё ж, з чаго ж Вам прыйшлося пачынаць?**

— Зараз гаварыць прасцей, чым тады пачынаць. Уявіце сабе: фабрыка стаіць. Абсталяванне псуецца, патрэбен ужо не тэхдогляд, а рамонт. Частку абсталявання проста расцягнулі. На складах ні грама сыравіны. Банкаўскія рахункі пустыя. Вось і пачні работу. Пачыналі яе практычна з нуля.

Першай умовай, якую я паставіла перад начальствам, была наступная: неадкладна перавесці фабрыку ў падпарадкаванне птушкапрама Міністэрства сельскай гаспадаркі. Чаму менавіта туды? Самае галоўнае для нашай вытворчасці — гэта сыравіна. А яе можна ўзяць на птушкафабрыках. Такім чынам з забеспячэннем сыравінай хоць і часткова, можна сказаць, уладзілі. Аднак па-ранейшаму сыравіны не хапае. Мы шукаем новыя крыніцы яе паступлення. Але ж гэта яшчэ было не ўсё, каб аднавіць вытворчасць. Патрэбна была спецыяльная тканіна. Яе вырабляюць толькі ў Расіі. А гэта няблізкі свет. Складалі дагаворы. Частка закупак ішла і па бартэру. Рабілі так, каб на ўзаемавыгаднай аснове набываць патрэбныя для вытворчасці матэрыялы.

Па праўдзе кажучы, на першых парах справы з набыццём сыравіны ішлі не вельмі добра. 200—300 кілаграмаў пер'я прывозілі спярша. Але паступова мы наладжвалі справу, заключалі новыя дагаворы. Словам, не сядзелі на месцы, шукалі выхад, стукалі ва ўсе дзверы, куды можна. Дзяржава таксама нам дапамагла крэдытам. Астатняе ўсё прыходзілася рабіць самім.

**— У народзе кажуць: узяўся за гуж — не кажы, што не дзюж. Па ўсім відаць, узяўшыся за справу, Вы, Таццяна Канстанцінаўна, як у той прымаўцы, не хацелі нават знешне паказаць, што не зможаце справіцца. А што Вы, па крайняй меры, адчувалі ў душы?**

— Ведаеце, у першыя дні і месяцы было адчуванне пастаяннай трывогі. Вось узялася за моцны гуж, а як выцягнуць той цяжкі воз? Сумнявалася, а можа не хопіць сілы, умення і ведаў. Але адступаць я ніколі не прывыкла, і калі нешта не атрымліваецца, то паяўляецца добрая злосць: трэба абавязкова пераадолець узнікшыя цяжкасці і праблемы.

**— І, вядома, пераадолелі?**

— Канешне. Хаця гэта каштавала шмат нерваў. Першы год маёй дырэктарскай работы быў, бадай, самым складаным. Сёлета хоць і не лягчэй, але ж мы набылі пэўны вопыт, расшырыліся нашы сувязі, паявіліся новыя рынкі збыту. Нашу прадукцыю ўжо ведаюць нават у Сібіры. 70 працэнтаў яе застаецца ў Беларусі, а 30 працэнтаў паступае пераважна ў Расію.

Штогод мы ўдзельнічаем у рэспубліканскіх ярмарках. Як вынік, заключаюцца новыя дагаворы, паяўляюцца новыя адрасы для пастаўкі нашай прадукцыі. Сёлета зацікавіліся ёй і Польшча.

**— Як Вы ўжо сказалі, Таццяна Канстанцінаўна, у Вас самыя цесныя сувязі з расійскімі рэгіёнамі. А вось крызіс у Расіі паўплываў на гэта ці не?**

— Паўплываў і істотна. Калі раней па бартэру мы вазілі прамысловыя тавары, то цяпер нам кажуць: давай прадукты. А з імі намнога цяжэй. Усё ж знаходзім выхад, інакш патрэбнай тканіны не атрымаеш.

**— Наколькі я ведаю са зводак раённай статыстыкі, фабрыка другі год запар працуе ў добрым рытме, свае планы выконвае, выпускае якасную прадукцыю, якая карыстаецца попытам. Ці не так?**

— Зусім верна. Калі летась мы выпускалі 11 назваў сваёй прадукцыі, то сёлета — 52. Гэта розных памераў падушкі, коўдры, жылеты, пуховыя мужчынскія курткі. Рэнтабельнасць у мінулым годзе склала 6,6 працэнта, то зараз — 23,4 працэнта. Атрымана сёлета чыстага прыбытку ў восем разоў больш, чым летась. У 2,5 раза павялічылася заработная плата і склала ў сярэднім за месяц 4,5 мільёна рублёў. Дарэчы, яе выплочваем рэгулярна, без затрымак. Словам, стараемся, каб і работа была для людзей, і, вядома, заробкі. Запазычанасці па падатках і за электраэнергію ў нас няма. З крэдытам таксама разлічыліся.

Наша вытворчасць спецыфічная. Работа наладжана ў дзве змены. Першая змена рыхтуе ўсё неабходнае для другой. Гэта, як правіла, прадукцыя швейнага цэха. Без яе другая змена не можа працаваць.

Умовы працы, я лічу, створаны нармальныя. Усе вытворчыя працэсы аўтаматызаваны. У нашых цэхах устаноўлены навейшыя машыны замежнай і айчыннай вытворчасці. Ёсць і японскія. Працуюць яны пакуль што безадказна. Тэхніка вельмі складаная.

Акрамя абсталявання ў цэхах, рамантавалі і мянялі іншую тэхніку, маецца на ўвазе транспартную. Цяпер у нас 6 адзінак транспарту. Без яго наша вытворчасць не можа ніяк абысціся, бо сыравіну ў большасці завозім самі. А гэта ў сваю чаргу патрабуе ад усіх кадраў высокай кваліфікацыі, майстэрства і проста дысцыплінаванасці.

**— І Вашы кадры спраўляюцца з пастаўленай задачай?**

— Без усялякага сумнення. Кожны на сваім участку. У нас працуе зараз 86 чалавек. 70 працэнтаў іх — гэта людзі да 40 гадоў. У асноўным кадры маладыя, працаздольныя. Укамплектаваны імі поўнасцю. Вакантных месцаў пакуль што няма. Звальняюцца ад нас рэдка, хіба толькі па сямейных абставінах. Мы не церпім і не трымаем дрэнных работнікаў (п'яніц, прагульшчыкаў). Хай шукаюць іншага месца. Патрабаванні да кадраў у нас самыя строгія. Інакш, па-мойму, і нельга. Бо толькі штодзённай, нястомнай працай можна дасягнуць поспехаў. У гэтым мы ўпэўніліся на ўласным вопыце.

**— У любой справе, як вы сказалі, усё рашаюць кадры, пачынаючы ад вадзіцеля і канчаючы дырэктарам. Каго са сваіх работнікаў, Таццяна Канстанцінаўна, Вы маглі б вылучыць як лепшых ці перадавікоў, як раней іх называлі?**

— Наш калектыў у цэлым працуе стабільна. І назваць можна было б усіх работнікаў. Але асабліва хачу адзначыць вялікі ўклад у агульную справу аператараў Валянціны Пятроўны Заленскай, Наталлі Васільеўны Галабурды, Любові Аляксандраўны Падражанец, энергетыка Міхаіла Мікалаевіча Ланкевіча, швачак-матарыстак Зою Фёдараўну Зуйко і Алену Эдуардаўну Ланкевіч, вадзіцеля Дзмітрыя Уладзіміравіча Сахоню...

**— Я ведаю, Таццяна Канстанцінаўна, што Вы даражыце кожным сваім работнікам, стараецеся, каб кожны з іх адчуваў сябе раўнапраўным членам калектыву. Відаць, вы клапоціцеся не толькі пра тых, што працуюць, але пра тых, што пайшлі ўжо на заслужаны адпачынак!**

— Абавязкова. Яны па-ранейшаму лічацца членамі нашага калектыву і карыстаюцца ўсімі льготамі, якія ў нас ёсць. Нядаўна пачаўся год пажылых людзей. Пра гэта не забылі, адзначылі нашых ветэранаў. Іх таксама запрашаем на ўсе агульнафабрычныя мерапрыемствы: Дзень абаронца Айчыны, жаночы дзень, падвядзенне вынікаў работы...

Падтрымліваем матэрыяльна сваіх работнікаў, што ідуць у водпуск, на пенсію, выходзяць замуж, ці жэняцца, калі няшчасце ў сям'і (хтосьці памёр з родных), ніколі не забываем, абавязкова аказваем патрэбную дапамогу.

Улічваючы складанае эканамічнае становішча, выдзелілі кожнаму члену калектыву па паўмільёна рублёў на набыццё капусты. Можа і нямнога, але ж колькі маглі. Як разбагацеем, большай будзе і дапамога.

**— Вы сказалі, Таццяна Канстанцінаўна, што прадукцыя фабрыкі не залежваецца на складах і карыстаецца вялікім попытам. А як у вас наконт індывідуальных заказаў? Ці могуць жыхары Івацэвіцкага і суседніх раёнаў зрабіць свой заказ?**

— Індывідуальныя заказчыкі ёсць у нас пастаянна. Мы вырабляем для іх розных памераў коўдры, падушкі, жылеты, дзіцячыя камплекты, іншыя заказы. Хай звяртаюцца да нас, прывозяць сваю сыравіну, я маю на ўвазе курынае і гусінае пер'е. Тады хутчэй атрымаюць гатовую прадукцыю. Мы яшчэ нікому не адмаўлялі.

**— І апошняе, Таццяна Канстанцінаўна, аб чым хацеў спытаць. Чым жыве сёння калектыў фабрыкі, якія вашы планы і задумкі на будучыню?**

— Фабрыка, асабліва сёлета, працуе рытмічна. Думаю, будзе працаваць яшчэ лепш. Расшыраем мы не толькі рынкі збыту, але ж і геаграфію набыцця сыравіны. Частку яе купляем у Венгрыі. Зараз наш галоўны боль — газіфікацыя фабрыкі. Усё гэта вельмі дорага каштуе, але ж адступаць ужо няма куды. Трубы падведзены ўжо. Ідзе мантаж абсталявання. Дарэчы, наша кацельня не патрабуе нейкага перааабсталявання. Справа толькі ва ўстанаўленні аўтаматыкі і прыбораў. Аператараў для кацельні падрыхтавалі ўжо. Думаю, што на Новы год запалім газавы факел.

А на чарзе рамонт палёў фільтрацыі, удасканаленне тэхналогіі вырабу нашай прадукцыі. Кожны дзень прыносіць нам штосьці новае, бо жыццё стала непрадказальным. Таму мы гатовы даказаць, што і ў цяжкі для эканомікі краіны час можна і патрэбна працаваць стабільна. У нас ёсць усе падставы для гэтага.

**— Дзякую Вам, Таццяна Канстанцінаўна, за гутарку. Хай здзейсняцца ўсе вашы планы і задумкі.**

*Гутарыў*
*С. КАЖАДУБ.*
**в. Квасевічы Івацэвіцкага раёна.**

